# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (280) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 24 ЧЭРВЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.


## НА ГАСЦІННАЙ ЗЯМЛІ


Максім Лужанін

У сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка Янкі Купалы Галоўнае праўленне Таварыства польска - савецкай дружбы запрасіла ў нашу краіну пісьменніка Максіма Лужаніна.

11 чэрвеня Максім Лужанін наведаў Беласточчыну. У памяшканні ТППР адбылася сустрэча паважанага госця з жыхарамі Беластока.

У ёй узяў таксама ўдзел літаратар і перакладчык беларускіх твораў на польскую мову Ежы Енджэеўскі, які вельмі цікава расказаў аб гісторыі беларускай літаратуры і асабліва падкрэсліў значэнне творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Максім Лужанін падзяліўся ўспамінамі аб асабістых кантактах з вялікімі пісьменнікамі, а таксама прачытаў частку свайго неапублікаванага твора аб Якубу Коласу.

Цёпла сустрэў дарагога госця беларускі ліцэй у Бельску. Дырэктар ліцэя Яраслаў Кастыцэвіч, прывітаўшы госця, расказаў аб гісторыі бельскага ліцэя. Ад імя ўсіх навучэнцаў з прывітальным словам выступіла вучаніца 10-га класа Валя Пятручук. Яна таксама прачытала верш прысутнага паэта пад загалоўкам «Подпісь».

Пісьменнік у сваім выступленні пажадаў усім навучэнцам ліцэя поспехаў у вучобе, а таксама прачытаў прысутным некалькі сваіх твораў. Школьнікі паднеслі госцю букеты кветак.

Вечарам у Беластоку адбылася сустрэча Максіма Лужаніна з працаўнікамі і актывам Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Фота Т. Чачкоўскі

## КАБ ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА

Быў святочны жнівеньскі дзень. Мужчыны сабраліся і расселіся на лаўцы ля хаты Сяргея Русціловіча. Гутарка пайшла аб уборцы аўса, аб асеннім аранні. Хто-нехта пачынаў гаварыць аб немцах, але хутка ўстрымліваўся, баючыся працягваць «брыдкія словы» аб новым «гаспадары», бо тут жа сядзеў і солтыс Іван Аксейчук, якога людзі пачыналі ўжо няяк міжвольна баяцца.

У вёску ўвайшло двух мужчын. У цывільнай вопратцы, не зусім чыстай, азіраючыся навокал, яны наводзілі сабой уражанне, як быццам першы раз увайшлі да Каўпакоў. Калі наблізіліся да хаты Русціловічаў, сабраныя мужчыны апазналі ў іх асобах «лясных людзей», якіх бачылі раней ужо некалькі разоў.

— Дзе тут солтыс? — спыталіся энергічна.

— Гэта я... — адазваўся Ігнат Аксейчук.

Солтыс заўсёды вёў сябе адважна. Але гэтым разам відаць было, што струсіў. Па яго́ным твары спярша прабегла плямістая румянасць, а потым шчокі яго раптам пабялелі. Выглядаў, як у нечым вінаваты.

— Укажы нам чалавека, у якога мы маглі б паесці, — звярнуліся да солтыса прышэльцы.

— У цябе, Іван, хіба можна, — накіраваў солтыс словы да Івана Жака.

— Калі ласка, можна, — сказаў Іван.

Усе трох моўчкі пакінулі групу сабраных мужчын. Іван узіраўся на прышэльцаў. Твары іх былі пахудзелыя, няброітыя. З-пад звычайных летніх сялянскіх шапак у клінкі паказваліся пасмы збітых валос. У аднаго былі ясныя, амаль белыя, у другога чорныя. Вочы ў абодвух былі вялікія, празорныя; позіркі энергічныя, быццам аглядалі не толькі вонкавы выгляд Івана, але хацелі бачыць яго сэрца і пыталіся: «ці ты свой?». Іван адчуваў пытальныя позіркі сваіх гасцей і, калі яны наблізіліся да яго хаты, адазваўся:

— Не бойцеся, мы свае.

Жонка Івана, Марыя, хутка падрыхтавала ежу. На стале паявілася вараная капуста, малако, хлеб і крыху пажоўклая

(Працяг на стар. 2)

## З ГІСТОРЫІ БЕЛЬСКА ў XVI ст.


Ратуша ў Бельску Падляшскім.
фота: Т. Чачкоўскі

### НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ ГОРАДА ДА XVI СТ.

1252 год — першая гістарычная звестка аб Бельску. З выпадку паходу Даніла Раманавіча, Галіцка - уладзімірскага князя на Гродна, летапісец занатаваў, што Даніл «...паслаў з братам і сынам Раманам сваіх людзей, каб здабылі Гродна, а сам вярнуўся ў Бельск».

1360, 1372, 1376 гады — крыжаносцы знішчаюць аколіцы Бельска.

1385 год — Ягайла аддае Бельск пад уладу Вітальда.

1430 год — Вялікі Князь Літоўскі Вітальд надае Бельску Магдэбургскае права.

1499 год — Вялікі Князь Літоўскі Аляксандр пацвярджае і пашырае права, наданае Вітальдам.

XVI стагоддзе з'яўляецца для гарадоў Польшчы і Літвы перыядам самага паспяховага росквіту. У сувязі з эканамічнымі пераменамі, якія адбываліся на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў, пачынаючы ўжо ад канца XV ст., гарады развіваюць сваю гаспадарку і павелічваюць колькасць насельніцтва. Развіваюцца рамяство і гарадскі гандаль.

Няспынна пашыраючыся, гандлёвы абмен узбагачае асабліва падляшскія гарады, якія знаходзяцца на гандлёвых шляхах, вядучых у Польшчу, Літву і Расію. Рамяство, аднак, развіваецца значна слабей, чымсьці гандаль, а ў гаспадарчым жыцці мае вялікую ролю сельская гаспадарка. На такое, менавіта, гаспадарчае становішча ў падляшскіх гарадах вялікі ўплыў мела наданне зямлі на карысць гарадоў у перыяд іх заснавання.

### ГОРАД І ЗАНЯТКІ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў XVI СТ.

У другой палове XVI ст. у Бельску пражывала каля трох тысяч жыхароў. Асноўнымі заняткамі былі сельская гаспадарка, гандаль і рамяство.

Гандаль, так як і ў жыцці жыхароў іншых падляшскіх гарадоў, займаў тут вельмі важнае месца. У XV—XVI ст. ст. Бельск апынуўся на скрыжаванні важных гандлёвых дарог, праходзячых праз Падляшша. Крыжаваліся тут шляхі, якія вялі з Польшчы ў Літву і ў Расію. Адзін з іх вёў з Кракава (а нават мабыць і Вроцлава) праз Люблін і Брэст у Вільню; другі — з Познані праз Варшаву і Драгічын у Смаленск. У сувязі з гэтым у Бельску знаходзілася таможаная, у якой праязджаючыя праз горад купцы мусілі плаціць пошліны за свае тавары. Гэтая пазіцыя Бельска аказвала вялікі ўплыў на заняткі яго жыхароў. Многія бралі жывы ўдзел у гандлі, ды і не толькі мясцовым, але таксама мелі сувязі з параўнальна аддаленымі часткамі Польшчы. Бельскіх купцоў можам у гэты перыяд сустрэць у Познані і Кракаве, а нават у Вроцлаве. Некаторыя бельскія сем'і ўзбагаціліся і то выдатна дзякуючы сваёй купецкай прафесіі. Прыгадаем тут асабліва сям'ю Сухеневічаў — бельскіх мяшчан, якія ўзбагаціліся на гандлёвых здзелках.

Нягледзячы на параўнальна значную зямельную ўласнасць, што мусіла б у сваю чаргу сведчыць аб сельскагаспадарчым характары горада, сустракаем у Бельску ў XVI ст. даволі шмат рамеснікаў. Было іх у 1576 г. 265 асоб, што на агульную колькасць 557 сем'яў, пражываючых у гэтым горадзе, складала 50% гэтых сем'яў. Гэта зусім немалая колькасць. Праўда, мы не ведаем, наколькі рамяство ў Бельску было галоўнай крыніцай утрымання, аднак у кожным выпадку што другая сям'я займалася рамяс-

(Працяг на стар. 3)

Працяг са стар. 1

твом. Зразумела, што ў многіх выпадках рамяство было дадаткам да даходаў з сельскай гаспадаркі.

Чым займаліся ў другой палове XVI ст. жыхары Бельска? Сярод рамеснікаў сустракаем спецыялістаў, займаючагася вырабам тасёмак, паясоў і г.д., рымара, сёдзельніка, кушнера, падстрыгача воўны, мяснікоў, краўцоў, пекароў, гарбароў, саладаўнікоў, кавалёў і іншых прадстаўнікоў гарадскога рамяства. Яны напэўна прадукавалі больш, чымсьці гэта патрабаваў горад і свае вырабы прадавалі навонкі. Сярод рамеснікаў асабліва шмат было гарбароў. Горад налічваў іх 53 асобы. Гэта сведчыць, калі возьмем пад увагу рамеснікаў, займаючыхся вытворчасцю скураных вырабаў (1 рымар, 1 сёдзельнік, 39 шаўцоў), аб вялікай ролі скуранай вытворчасці сярод бельскіх спецыялістаў. Значную ролю павінна была тут мець таксама і вытворчасць спіртных напіткаў; сярод мясцовых рамеснікаў сустрэнем у 1576 г. 11 саладаўнікоў. Яны мусілі мець свае прадпрыемствы ў самым горадзе, таму што «фальварчным мяшчанам (разыходзіцца тут хіба аб жыхароў прыгарадоў Бельска — заўвага аўтара), а таксама прышэльцам нельга займацца вытворчасцю соладу для карчмы», як адзначаецца ў гарадскіх пастановах. Гэтыя бельскія саладоўнікі абслугоўвалі напэўна 57 піўных корчмаў, якія знаходзіліся ў тэты час у Бельску.

Зразумела, што стан горада ў другой палове XVI ст., як аб гэтым сведчыць рэвізія горада, мусеў быць вынікам паспяховай каньюнктуры. Яна распачалася ўжо хіба ў XV ст. Ёсць, менавіта, звесткі, што ўжо ў першай палове XVI ст. (1524 г.) бельскія мяшчане выкупілі гарадское вуйтоўства і судаводства. Сума, за якую мяшчане набылі іх, сведчыць, што горад быў заможны. Іншым доказам дабрабыту бельскіх мяшчан з'яўляецца шпаркая адстройка горада пасля пажару, які знішчыў частку Бельска ў 1564 годзе.

Як я ўжо адзначыў, вялікую ролю ў гарадской экономіцы адыграла сельская гаспадарка. Да Бельска належала ў XVI ст. 371 валока зямлі (1 валока = 21 га). На іх заснавалася 6 вёсак, якія належалі раней да горада, а зараз зусім з ім не звязаны. Гэта былі: Аўгустова — 164 валокі; Младзянова (зараз Стрыкі) — 43 валокі грунтаў; Косцына (зараз Шасталы) — 29 валок грунтаў;

# З ГІСТОРЫІ БЕЛЬСКА XVI ст.

Станіславова (зараз Відава) — 74 валокі грунтаў; Пятрова (зараз Парцава) — 45 валок; Спічкі — 16 валок. Частку гэтых грунтаў атрымоўвала ў арэнду шляхта, а частка была надана для розных прадпрыемстваў, належачых да горада.

У XVII ст. на гарадскіх валоках знаходзілася толькі наданне каталіцкага шпіталя св. Міхала (3 валокі), а 6 валок было ў карыстанні войта. Пазней гэтыя наданні значна ўзраслі. У другой палове XVII ст. да розных цэркваў і шпіталяў у Стрыках належыць каля 20 валок грунтаў, а акрамя гэтага ў гэтай вёсцы 4,5 валокі арэндаваў шляхціч Мацей Цярнкоўскі; у фальварку Аўгустова 4,5 валокі знаходзіліся ў руках шляхціча Марціна Сарнацкага. Значная колькасць зямлі, належачая да горада, абумовіла вялікае значэнне сельскай гаспадаркі для насельніцтва.

У сувязі з гэтым у Бельску развіваўся гандаль збожжам.

## БЕЛЬСКАЕ СТАРОСТВА І ЛЯСНІЦТВА Ў XVI СТ.

Ужо праўдападобна ў XV ст. Бельск стаўся месцам, дзе знаходзіліся княжаскія ўраднікі — старасты, якія ад імя князя ўпраўлялі навакольнымі землямі. Кіравалі яны вайсковай, гаспадарчай і судовай уладамі на падначаленай сабе тэрыторыі. Яны таксама сцягвалі павіннасці з мясцовага насельніцтва, якія ішлі ў княжаскую касу. Гістарычныя крыніцы гавораць, што Бельская староства было заснавана ў 1430 годзе. Пад уладай старастаў былі спярша не толькі навакольныя абшары, якія належалі да горада, але таксама і сам Бельск. Пазней, у 1499 годзе, згодна з прывілеем Вялікага Князя Аляксандра Бельск быў выключаны спад улады старастаў. Захавалі яны, аднак, уладу над рэштай староства. У 1576 годзе Бельскае староства складалі тры фальваркі (Галавеск, Сталавач і Гузыкі). Тут падлягала 41 вёска. Усе яны групаваліся ў 13 вуйтоствах. Зразумела, што сяляне з вёсак, падначаленых пасобным фальваркам, мусілі працаваць у гэтых фальварках.

Да Бельскай гаспадарчай акругі належалі таксама вёскі Бельскага лясніцтва, размешчаныя на тэрыторыі Бельскай пушчы. У некаторых вёсках лясніцтва пражывалі сяляне, якія працавалі ў пушчы і ахоўвалі звяроў. Гэта група людзей выступае ў гістарычных крыніцах пад назвай асочнікаў, стральцоў, бортнікаў і пасечнікаў. Аб занятках гэтых людзей даволі дакладна гавораць пазнейшыя крыніцы — з другой паловы XVII ст. Адзначаюць яны, напрыклад, што задачай асочнікаў вёскі Лядка (праўдападобна разыходзілася тут аб фальварк Ляды ў XVI ст.) было «...пачынаючы ад Нарвы, горада ахоўваць пушчу, каб ніхто не прычыняў ёй шкоды і каб не знішчалася». Гэтая самая крыніца, абмяркоўваючы павіннасці стралкоў з вёскі Давідава (зараз Давідаўцы), сцвярджае, што яны трымалі ў сваіх руках па 2 валокі зямлі (каля 42 га), «...з якіх павінны не іншую выконваць павіннасць, а толькі служыць сваёй службай у якасці стралкоў пры асобе Яго Каралеўскай Мосці, г. зн. калі б Яго Каралеўская Мосць ішла на вайну, дык пры гарматах павінны ісці. Акрамя ж ваеннага паходу павінны заўсёды быць гатовымі з рушніцамі ў пушчу ад лану». Як з гэтага вынікае, стралкі ў мірны час выкарыстоўваліся для палявання, а ў перыяд вайны служылі ў артылерыі.

Вёскі Бельскага лясніцтва гаспадарча падлягалі фальварку Ляды. Ад назвы гэтага фальварка паходзіць сучасная назва Бельскай пушчы — Лядская пушча (няправільна названа Ляцкай, як гэта адзначыў Ежы Вісьнеўскі ў сваёй рэцэнзіі працы праф. Гербста аб Бельску).

Паспяховае развіццё Бельска і наваколля затармазілася ў палове XVII ст. у выніку знішчэнняў падчас шведскай вайны. Аднак ужо раней пачалі дзейнічаць і то ў маштабах цэлай краіны фактары эканамічнага і гаспадарчага характару, якія прычыніліся да таго, што горад зусім страціў сваё папярэдняе значэнне.

мгр **Томаш Пляцкоўскі**

## Да васьмідзесяцігоддзя з дня нараджэння ЯНКІ КУПАЛЫ

З выпадку 80-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы Літаратурны музей імя паэта ў Мінску выпусціў гэтымі днямі каштоўны зборнік п. з. «Народны паэт Беларусі». У ім змяшчаюцца ўспаміны сучаснікаў Я. Купалы, даследчыя працы, выказванні вучоных, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячоў. У асобным раздзеле знаходзім рэдкія дакументы, многія з якіх публікуюцца ўпершыню. Гэтае выданне дапаўняюць таксама хранікальна - інфармацыйныя нататкі.

У адной з даведак, змешчанай у кнізе, адводзіцца месца апісанню розных мерапрыемстваў у Польшчы ў гонар 75-ай гадавіны з дня нараджэння паэта. Нас асабліва цешыць тое, што тут адзначаецца вялікі ўклад БГКТ і «Нівы» ў правядзенне гэтых урачыстасцей. Прыгадваюцца мясцовасці, у якіх беларускае насельніцтва, гурткі мастацкай самадзейнасці, бібліятэкі актыўна ўдзельнічалі ў розных мерапрыемствах у гонар гадавіны.

Эмка

* * *

## ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР

У вёсцы Нурэц, Сямяціцкага павета, адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны дваццатай гадавіне з дня смерці і васьмідзесятай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы. Сярод прысутных на вечары найбольш было моладзі. З жыццёвым і творчым шляхам вялікага беларускага песняра пазнаёміў член Павятовага праўлення аддзела БГКТ у Мілейчыцах Уладзімір Лявоцюк. На гэтым вечары чыталіся таксама вершы Я. Купалы, якімі ўсе захапляліся. У другой частцы літаратурнага вечара ў Нурцу адбылася ажыўленая дыскусія над прачытанымі творамі паэта. Моладзь на заканчэнне гэтай урачыстасці вырашыла часцей наладжваць падобныя літаратурныя вечары. Запрапанавана, у прыватнасці, правесці вечар, у час якога адбылося б мастацкае чытанне твораў Алеся Барскага.

**Леў**




вырабляе. Паездка да Фауля дала магчымасць устанавіць, што ў Праклятай даліне ёсць нейкі добра засакрэчаны аб'ект. Але гэта яшчэ не адрас завода. Нават як бы ён змяшчаўся ў гэтай даліне! Як у гэтым пераканацца? Як даведацца пра вытворчасць і прадукцыю падземнага прадпрыемства? Усе гэтыя звесткі ён можа даведацца толькі ад Шанье.

...Тры дні Генрых з Куртам не вылазілі з гор. Толькі вечарам вярталіся дамоў, брудныя і змучаныя.

Шанье быццам праваліўся скрозь зямлю! Не натрапілі на след уцекача і шматлікія атрады, кінутыя на яго пошукі. А тым часам да макі ён прабрацца не мог — на ўсіх дарогах, перавалах, горскіх сцежках стаялі засады эсэсаўцаў.

У працэсе пошукаў стварылася новае ўскладненне: выявілася, што Поль Шанье — не Шанье, а невядома хто. Па дадзеных завода, Шанье быў родам з невялічкага мястэчка Эсканье, але адтуль прышло паведамленне, што ніякі Поль Шанье ў мястэчку Эсканье ніколі не жыў, што не існуе нават вуліца, на якой быццам бы жылі яго бацькі.

Сёння ноччу прайшоў дождж і запланаваны на раніцу выезд давялося адкласці, пакуль зямля крыху прасохне. Выкарыстоўваючы перапынак, Генрых напісаў ліст да Бертгольда. Пісаў па просьбе Мілера. Учора Мілер атрымаў загад на працягу трох дзён знайсці ўцекача, у іншым выпадку яго выза-



вуць у Берлін на спецыяльную гутарку. Чым гэта пахла, Мілер добра ведаў, таму прасіў Генрыха памагчы дабіцца ў Бертгольда прадаўжэння пошукаў хоць на тыдзень.

Генрых абяцаў дапамагчы. Не заклеіўшы пісьма, Генрых уручыў яго Курту з загадам неадкладна аднесці да Мілера.

— А калі вернешся, папрасі мадам Гарваль або мадэмуазель Моніку падрыхтаваць нам нешта на дарогу.

— Мадэмуазель Моніка не дамагае ўжо другі дзень...

— Вельмі дрэнна, Курт, што ты мяне не папярэдзіў яшчэ ўчора!

— Мы ўчора прыехалі вельмі позна.

— Тады зробім так: я зараз зайду хвілін на пятнаццаць да мадэмуазель і перапрашу яе за сваю няўвагу, а ты нясі пісьмо і зараз жа пачынай збірацца ў дарогу.

— Пакуль вы вернецеся, гер обер-лейтэнант, усё будзе гатова.

Курт і не думаў, што яму давядзецца затрымацца значна даўжэй, чым ён разлічваў. Атрымаўшы ліст, Мілер не адпусціў Курта адразу, як той спадзяваўся, а зрабіў яму знак зачакаць.

— Ваша прозвішча Шміт? — запытаў Мілер, калі пісьмо было прачытана, запячатана і ўручана ад'ютанту для неадкладнай адпраўкі.



— Так точна!

— Вы раней былі ў роце обер-лейтэнанта Фельднера?

— Так точна.

— Вы ведаеце, што ваш былы камандзір зараз у бальніцы, цяжка паранены?

— Так точна!

— Адкуль вы гэта ведаеце?

— Мне сказаў аб гэтым обер-лейтэнант фон Гольдрынг.

— А калі вы апошні раз бачылі обер-лейтэнанта Фельднера?

— У Банвіль, у дзень ад'езда, у нумары обер-лейтэнанта фон Гольдрынга.

— Обер - лейтэнант Фельднер з вамі гутарыў?

— Так. Ён загадаў перадаць обер-лейтэнанту фон Гольдрынгу нумар цягніка і час ад'езда.

— А калі вы паведамлялі аб гэтым обер-лейтэнанта Гольдрынга, пабочных у пакоі не было?

— Не, — цвёрда адказаў Курт, хоць добра памятаў, што ў гэты час у нумары Генрыха была Моніка.

Вяртаючыся дамоў Курт не ішоў, а хутчэй бег. Курт гарэў нецярплівасцю расказаць пра ўсё обер-

(Працяг на стар. 4)

# НАРОДНАЕ МАЙСТЭРСТВА

Беласточчына не ад сёння славіцца багаццем форм і высокім узроўнем народнага рукадзелля. Асабліва жывымі з'яўляюцца традыцыі народнай мастацкай вытворчасці ва ўсходніх і паўднёвых раёнах Беластоцкага ваяводства. Многа вёсак у Сакольскім павеце славіцца хатнім вырабам узорыстых, арыгінальных кілімаў; у Белавежы працуюць народныя майстры разбярства; у Кляшчэлях, у Луцэ і Чорнай Всі Касцельнай умелыя рукі хлебаробаў лепяць прыгожыя шэрыя гаршчкі і гладышкі, але найбольш зараз прадукуецца саламяных дарожак, мат і рознага роду пляцёнак, якія калісь служылі гаспадарам для перахоўвання збожжа і мукі. Іх вырабам займаюцца сялянскія рамеснікі з вёсак Кошкі, Градалі, Маліннікі і наваколля.

Прадукты сялянскіх рамеснікаў высока цэняцца на рынку ў цэлай Польшчы, а таксама вялікае на іх запатрабаванне за мяжой.

Каб уняць у арганізацыйныя рамкі самародную народную вытворчасць, на пачатку бягучага года было заснавана Кааператыўнае аб'яднанне саматужнікаў (халупнікаў) і народных прадуцэнтаў. Аб'яднанне налічвае зараз 110 членаў і 40 кандыдатаў. Асноўнымі мэтамі яго з'яўляецца планавае арганізаванне хатняй вытворчасці і забеспячэнне збыту прадуктаў сваіх членаў.

Аб'яднанне працуе нядоўга, бо толькі чатыры месяцы, але дасягненні яго вельмі багатыя. Найлепш адлюструюць іх вось гэтыя лікі: за чатыры месяцы сваёй дзейнасці аб'яднанне закупіла ад народных прадуцэнтаў вырабаў, якіх вартасць складае суму амаль 3,5 мільёнаў злотых. Калі б мы расцягнулі істужкай усе саламяныя дарожкі, вытканыя мастакамі



Саламяныя абажуры

Бельскага павета, дык можна было б высеціліць імі дарогу з Бельска ў Варшаву. **Вырабы сялянскіх мастакоў славяць Беласточчыну ў Чэхаславакіі, ГДР, Нарвегіі, Бельгіі, Галандыі, Даніі, Швейцарыі, Францыі і ў другіх далёкіх краінах.** Высылка да гэтых краін афармляецца цэнтраляй «Копэксім» непасрэдна са скупачных магазінаў у Бельску. Вартасць высланых вырабаў складае суму 400 тысяч злотых. Зараз аб'яднанне робіць намаганні, каб яшчэ больш пашырыць экспарт, каб здабыць для сваіх прадуктаў новыя замежныя рынкі. Вырабы самародных мастакоў Беласточчыны прадстаўляюць экзатычную вартасць для жыхароў далёкіх замежных краін і таму знаходзяць столькі пакупшчыкаў, а нам, нашай дзяржаве, прыбаўляюць патрэбных дэвіз. Нядаўна аб'яднанне атрымала тэрміновы заказ на замежную высылку такіх вырабаў на суму 200 тысяч злотых.

Нядаўна таксама аб'яднанне наладзіла ў вёсцы Градалі (Бельскі павет) першы агульны сход сваіх членаў. Было выбрана новае праўленне аб'яднання, а на заканчэнне ўдзельнікі гэтага сходу прынялі пастановы, у якіх, між іншым, гаварылася, што:

— аб'яднанне ў бліжэйшым часе наладзіць сваім членам краязнаўчую экскурсію ў Варшаву, Кракаў, Закапанэ і Морске Вока;

— аб'яднанне наладзіць у вёсцы Градалі калектыў песні і танца пад назвай «Падлясе» і забяспечыць яго грашовай падтрымкай;

— аб'яднанне устанаўляе тры пастаянныя стыпендыі: для студэнта, вывучаючага медыцыну, агратэхніку і мастацкую графіку;

— аб'яднанне бярэ шэўства над святліцай у Градалях і забяспечыць яе ўсім неабходным для вядзення культурна - асветнай працы;

— аб'яднанне ў будучыні наладзіць у Грыгараўцах лекарскі і зубны пункт аховы здароўя.

Намеры, як бачым, сапраўды высакародныя. Застаецца толькі пажадаць амбітным членам аб'яднання паспяховага выканання гэтых пастаноў.

Тым аптымістычным акцэнтам можна было б закончыць гэтую інфармацыю, але жыццё ва ўсіх сваіх шматгранных праявах стварае не толькі адны прыемнасці.

Аб'яднанне, як было сказана, згуртоўвае 150 членаў і кандыдатаў. Статут аб'яднання забараняе праводзіць скупку ад прадуцэнтаў, якія не з'яўляюцца яго членамі. У гаспадарцы, аднак, грош на вуліцы не валяецца. Кожны гаспадар рад быў бы зарабіць некалькі сот злотых у месяц. Таму вырабам, напрыклад, саламяных дарожак і мат займаецца шмат больш сялян. Магазін аб'яднання ў Бельску прыняў дагэтуль вырабы ад каля тысячы прадуцэнтаў, хаця гэта забаронена статутам. Скупачныя пункты не маюць адпаведных магазінаў для перахоўвання закупленых вырабаў і таму аб'яднанне не зможа закупіць усяго таго, што прадукуюць сяляне. Не адзін раз бывала зімою так, што жанчына па некалькі раз насіла свае саламяныя дарожкі і не магла прадаць іх у Бельску. Такое становішча родзіць нездавальненне, бывае прычынай усялякіх прэтэнзій і т.п.

Тут хацелася б нізка пакланіцца нашай «Бэтэсцы». Мо' яна пераняла б ініцыятыву і наладзіла на Беласточчыне свої філіял для арганізацыі і скупкі прадуктаў хатняга сялянскага вырабу? Мо' «Бэтэска» стварыла б магчымасці збыту вырабаў усім вясковым мастакам?

**В. РУДЧЫК**



Саламяная дарожка

## Паштовыя рэкорды

Прыемна выглядае Арлянская пошта. Драўляныя перагародкі замяніла шкло. Зусім як у Беластоку, толькі ў меншых размерах.

На Арлянскую пошту прыемна зайсці яшчэ і таму, што ветлівыя на пошце працуюць людзі. Ветлівыя і... старыя. Не, не па ўзросту, старыя па стажу сваёй працы на пошце.

**Сцяпан Орда** — 14 год працы на пошце, 13 у Орлі, **Казімір Кутасевіч** — 15 год працы на пошце.

Арлянскім рэкардсменам хочацца пажадаць асягнуць лічбу гадоў у працы памножаную (згодна з традыцыяй) на 10.

вл.

(Працяг са стар. 3)

лейтэнанту і быў вельмі расчараваны, убачыўшы, што таго яшчэ няма ў нумары.

Пачуўшы голас Генрыха за дзвярыма, Моніка моцна збянтэжылася. Няўжо мама дазволіла зайсці да яе ў пакой?

Генрых зрабіў выгляд, што не прыкмеціў хвалявання дзяўчыны.

— Вы сёння незвычайна прыгожы, Моніка!

— О, белае ёй да твару! — умяшалася маці, якая выйшла з суседняга пакоя.

— Каб вы бачылі яе падчас канфірмацыі... пачакайце, я зараз пакажу яе фота. Я проста закахана ў яго!

Мадам Гарваль падыйшла да шафы, выняла адтуль вялікі сямейны альбом, раскрыла яго і падала Генрыху.

Генрых глянуў і амаль не крыкнуў. Мадам Гарваль задаволена ўсміхнулася — яна была ўпэўнена, што гэта выгляд яе дачкі зрабіў такое ўражанне. Генрых не зводзіў вачэй з фатаграфіі. Тое, што ён угледзіў, зрабіла на ім неймавернае ўражанне. Нават ён, добра вывучаны, які прывык да ўсялякіх сюрпрызаў, ледзь стрымаў сваё хваляванне. І не прыгажосць Монікі так яго ашаламіла. Уразіла Генрыха іншае. Побач Монікі стаяў Поль Шанье.

**(Працяг у наступным нумары)**

104

## СЕМІНАР ДЛЯ БІБЛІЯТЭКАРАЎ

Так як і ў мінулым годзе, Ваяводская бібліятэка ў Беластоку наладзіла 8 і 9 чэрвеня ў Белавежы двухдзённы семінар для бібліятэкараў, працуючых у беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Семінар адкрыў дырэктар Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку Уладзімір Малеўскі, які, у прыватнасці, адзначыў значны ўзрост чытачоў беларускіх кніжак у Бельскім, Гайнаўскім і Беластоцкім паветах. Гаворачы аб гэтай пацяшальнай з'яве, У. Малеўскі падкрэсліў, што сур'ёзны ўплыў на яе мае тут павышэнне кваліфікацый бібліятэкараў.

Арганізатары семінара задбалі, каб заняткі былі цікавымі і карыснымі для яго ўдзельнікаў. Вось аб буйнейшых прадстаўніках беларускай літаратуры і галоўных яе ідэйных напрамках гаварыў мгр Аляксандр Баршчэўскі, аб гісторыі польска - беларускіх літаратурных узаемаадносінах рэд. «Нівы» Мацей Канапацкі.

У час семінара яго ўдзельнікі паведамілі аб новых набытках сваіх бібліятэк і прыгадалі цікавыя лічбовыя дадзеныя, якія сведчаць аб іх поспеху. Аб супрацоўніцтве ГП БГКТ з бібліятэкамі гаварыў прадстаўнік таварыства Уладзімір Паўлючук. Трэба тут адзначыць, што нягледзячы на абмежаваны час заняткаў удалося наладзіць аўтарскую сустрэчу, у якой прынялі ўдзел Яша Бурш, Віктар Швед і Алесь Барскі. Незвычайным поспехам сярод бібліятэкараў карысталіся зборнік «Рунь» і зборнік вершаў А. Барскага. «Белавежскія матывы». Аўтары ўручалі іх разам з дэдыкацыяй. Пасля заняткаў усе паспелі яшчэ пабываць у кіно і наведаць Белавежскі запаведнік.

Эмка

## Выкананы ў 100 працэнтах

Якое вялікае значэнне для навучання мае выгодная прасторная школа, нікога не трэба ў гэтым пераконваць. А яшчэ ў многіх мясцовасцях школы знаходзяцца ў сялянскіх дамах. Каб хутчэй там былі пабудаваны выгодныя школьныя памяшканні, у многім залежыць ад выканання грамадскага фонду школ. Гэтую справу добра разумее Прэзідыум ГРН у Гуранах (Сакольскі павет). Там ужо 13 красавіка быў выкананы ў 100% ГФБШ.

Брава Гураны!

(мх)

 

## Парады нашага праўніка

### ПАРУШЭННЕ СПАКОЮ

Парушэнне спакою ў публічным месцы караецца па закону.

Калі хто ў публічным месцы падымае крык, шум, або стук, можа быць пакараны арыштам да 2 месяцаў, або штрафам да 3000 зл. Яшчэ больш караюцца такія паводзіны ўначы. Згодна з арт. 30 права аб парушэнні пагражае за гэта кара да 3 месяцаў арышту, або штрафу да 4.500 — зл.

Неадпаведныя паводзіны ў публічным месцы, а перш за ўсё ўжыванне нахабных слоў — караецца арыштам да 2 месяцаў, або штрафам да 3.000 зл. На жаль у практыцы людзі часта на такія паступкі не рэагуюць, а міліцыя не заўсёды піша пратакол і кіруе справу ў адміністрацыйную калегію, якая разглядае такія справы.

## МОДА



Краткі заўсёды модныя

## Сельская гаспадарка без таямніц

### НОРМЫ І АПЕТЫТЫ

Часта чуем словы: будзем добра карміць жывёлу, атрымаем добрыя вынікі. І то праўда. Кармленне найважнейшае. Недахоп корму, няўмелае выкарыстоўванне паш, памылкі ў кармленні — гэта прычыны малой выдайнасці кароў на Беласточчыне (каля 1.800 л). Пашавы баланс паказвае, што мы маем 80% поўнага забеспячэння ў аўсяных адзінках (такая аджыўчая вартасць корму, якую мае 1 кг аўса сярэдняй якасці) і каля 60% бялка.

Кажам: добра карміць. Ці добра — значыць многа? Ці даваць столькі корму, колькі з'есць жывёла? Пра якія кормы размова, які будзе кошт гадавання і як будзе аплачвацца прадукцыя. Добра карміць — зусім не абазначае, што ўволю. Рацыянальнае кармленне звязанае з нармаваннем. Значыць справа ў тым, каб даць жывёліне столькі, колькі фактычна яна патрабуе.

Колькі даваць і што, залежыць ад узросту жывёлы, вагі, прызначэння, гатунку, выдайнасці, здароўя і г. д. У кармленні быдла найважнейшае — вага і выдайнасць.

Разгледзім гэта дакладней. Карова важыць, напр., 500 кг, дае 16 л. малака (3,6% тлушчу), маладая. Трэба ёй даць столькі корму, каб забяспечыць яе жыццёвыя і прадукцыйныя патрэбы. Бярэм «Normy żywienia źwierząt gospodarskich», выданне II, стар. 16—17. З табліц даведваемся, што такая карова павінна атрымаць: аўсяных адзінак 13,53, бялка — 1 245 грам (г. зн. 4,6 аўсяных адзінак на тое, каб жыць, 7,52 — на прадукцыю 16 л. малака, 1,41 — на рост; бялка адпаведна: 300 800 і 145 грам).

Такія вось запатрабаванні жывёлы. Іх трэба забяспечыць у выглядзе корму. Ізноў карыстаем тут з кнігі (стар. 41—55). Маем сярэднюю пашу. Прыблізна аблічана, што яна ў чэрвені дае 35 кг зялёнкі. Ці гэтага хопіць? На стар. 43 гаворыцца, што 1 кг корму з такой пашы дае 0,279 аўсянай адзінкі і 32,1 грам бялка. Значыць 35 кг дае: 9,765 аўсяных адзінак і 1 123 грам бялка. З гэтага бачым, што каровам будзе замала ежы. Трэба ім яшчэ дадаць корму, напр., зялёнку з поля, а ў выпадку неабходнасці і трэсцівыя пашы.

Такая сістэма кармлення простая. Дае вялікія мажлівасці атрымаць высокую прадукцыю параўнальна малым коштам. Іменна такі метад жывёлагадоўлі прынялі ПГР у Рудцы ў Бельскім павеце, ці ПГР Юхновец у Беластоцкім і добра на гэтым выходзяць.

Нармаванне корму набывае асаблівай важнасці зімою, нават восенню. Тады маем: сена, акапоўвыя, кішонкі, корм прамысловага паходжання і г.д. Умелае спалучэнне порцый тут вельмі важнае, таму што корм павінен дапаўняцца адзін другім, каб быць і смачным, і страўным, а пры гэтым трэба помніць, каб быў як найтанейшы.

Пададзены вышэй спосаб нармавання корму для кароў адносіцца і да іншай жывёлы. Зразумела, калі мова аб самым метадзе, як рабіць. Бо патрабаванні свінні, авечкі ці коня бываюць іх іншыя.

**Інж. М. Сухажэбрскі**



★ ★ ★

ГДР. Магутныя трансфарматары, выпрадукаваны ў Дрэзне, удзельнічаюць у электрыфікацыі брацкіх сацыялістычных краін.



## ЛЕКАВЫЯ ЯКАСЦІ МЁДУ

Мёд — гэта амаль чыстая глюкоза і левулёза. Таму ясна, што пчала, ператвараючы цукар у мёд, робіць вельмі карысную работу. У пчаліны мёд уваходзяць таксама солі кальцыя, натрыя, калія, магнія, жалеза, хлору, фосфару, серы, ёду, а асобныя яго гатункі ўтрымліваюць нават радый. Колькасць некаторых мінеральных солей у мёдзе амаль аднолькава з наяўнасцю іх у сыраватцы крыві чалавека.

Апрача таго, у мёдзе ёсць рад арганічных кіслот (яблычная, вінная, лімонная, малочная, шчаўёвая), бялкі і вітаміны. Пчаліны мёд з'яўляецца высокакаларыйным прадуктам: у адным кілаграме ўтрымліваецца 3.150 калорый.

Як дыетычны прадукт, мёд можна прымяняць аднача сова з лякарствамі і правядзеннем іншых лячэбных мерапрыемстваў.

Мёд — прадукт харчавання з патэнцыяльнай шчолачнасцю, і гэта мае выключна важнае значэнне для яго харчовых і лячэбных уласцівасцей. У цёмных гатунках мёду ўтрымліваецца больш мінеральных солей, чым у светлых, і дзякуючы гэтаму яны маюць больш высокія паказчыкі шчолачы.

У мёдзе ёсць вітаміны. Адзін з іх, $B_2$ (рыбафлавін) удзельнічае ў вугляводным, тлушчавым і бялковым абмене, усвойванні глюкозы з кішэчніка, а таксама садзейнічае паляпшэнню зроку. Пры даследаванні ўстаноўлена, што вітаміну $B_2$ у мёдзе амаль столькі, колькі ў курыным мясе, у 17 разоў больш, чым у свежых абрыкосах, у 16 разоў больш, чым у соку вінаграда і ў свежых яблыках, у 5 разоў больш, чым у посным сыру, пладах шыпшыны, сырой моркве.

Вітамін $B_6$ (пірыдаксін) удзельнічае ў бялковым абмене і ахоўвае арганізм ад захворванняў скуры. Гэты вітамін прымяняецца пры неўралгіях і некаторых захворваннях цэнтральнай нервовай сістэмы. Згодна літаратурных дадзеных, адсутнасць вітаміна $B_6$ у ежы выклікае мышачную слабасць, павышаную раздражняльнасць, канвульсіі, паралічы.

Пантажонавая кіслата з'яўляецца таксама антыдэрматычным фактарам, яна рэгулюе нармальны абмен рэчыва ў скуры чалавека і жывёл, а таксама ўдзельнічае ў вугляводным абмене. Ужыванне ежы, багатай пантажонавай кіслатой, паводле назіранняў, можа аднавіць колер пасівелых валасоў.

Вітамін H (біяцін) удзельнічае ў бялковым і тлушчавым абмене і садзейнічае засваенню бялкоў і тлушчаў арганізмам. Біяцін ахоўвае чалавека ад экземы, лішаю, фурункулёзу.

Фаліевая кіслата садзейнічае падтрыманню нармальнага абмену эрытрацытаў і ўзроўню гемаглабіну крыві. Яна пасляхова прымяняецца пры злаякасным малакроўі.

Апрача таго, у мёдзе выяўлен вітамін K (антыгемарагічны), які прымяняецца пры кровазліццях.

Хоць пералічаныя вітаміны ёсць у мёдзе ў вельмі нязначнай колькасці, тым не менш яны маюць вялікае значэнне, бо знаходзяцца ў спалучэнні з іншымі вельмі важнымі для арганізма рэчывамі (вугляводамі, мінеральнымі солямі, арганічнымі кіслотамі). Наяўнасць вітамінаў у мёдзе залежыць ад прымесі ў ім кветкавага пылку. Устаноўлена, што выдаленне кветкавага пылку з мёду прыводзіць да амаль поўнай адсутнасці ў ім вітамінаў.

Пчаліны мёд, дзякуючы супрацьбактэрыяльным уласцівасцям, пры правільным захоўванні вельмі доўга не псуецца. У адрозненне ад іншых харчовых прадуктаў ён ніколі не пакрываецца цвіллю.

Мёд з'яўляецца важным лячэбным сродкам народнай медыцыны. Са старажытных часоў ён шырока прымяняўся пры розных захворваннях, і ў нашы дні ўжываецца пры гарачцы, захворваннях страўніка - кішачнага тракту, органаў дыхання, сардэчна - сасудзістай і нервовай сістэмы, скурных і іншых хваробах.

Народ ужывае мёд у спалучэнні з рыбіным тлушчам. Ён прымяняўся некаторымі вучонымі пры лячэнні гнойных ран.

Аб прымяненні мёду пры захворваннях лёгкіх было вядома медыцыне ў старажытнай Індыі. У нашай краіне мёд яшчэ здаўна шырока прымяняўся як важны сродак народнай медыцыны пры захворваннях лёгкіх. Ужо на працягу некалькіх год пры туберкулёзе лёгкіх прымяняецца мёд з малаком або мёд з унутраным тлушчам жывёл.

Шырока выкарыстоўваецца мёд пры лячэнні слабасці сардэчнай мышцы, грудной жабы і г.д. Мышца сэрца няспынна працуе, і для кампенсацыі расходу энергіі патрабуецца глюкоза. А асноўнай састаўной часткай мёду з'яўляецца глюкоза.

Навукова абгрунтавана і практычна даказана, што ўжыванне мёду людзьмі з цяжкімі сардэчнымі захворваннямі вядзе да паляпшэння агульнага стану, нармалізацыі складу крыві, павышэння працэнту гемаглабіна, а таксама сардэчна - сасудзістага тонусу.

Такім чынам, пры захворваннях сэрца рэкамендуецца ўключаць пчаліны мёд у штодзённы рацыён як дыетычнае спажыўнае рэчыва.

Ужыванне мёду добра дзейнічае на працэс стрававання ў кішэчніку. Тлумачыцца гэта тым, што марганец і жалеза, якія ўтрымлівае мёд, паскараюць працэс стрававання, паляпшаючы такім чынам засвойванне арганізмам ежы. Апрача таго, мёд дапамагае пры запорах, можа быць выкарыстаны ў якасці лячэбнага сродку пры страўнікава -кішэчных захворваннях, якія суправаджаюцца павышанай кіслотнасцю. Калі прымаць мёд за паўтары-дзве гадзіны да яды, то ён затрымлівае выдзяленне страўнікаватага соку, і наадварот, пры прыёме яго непасрэдна перад ядой мёд стымуліруе выдзяленне страўнікавага соку. Ужыванне воднага раствору мёду ў цёплым выглядзе садзейнічае звадкаванню слізі ў страўніку і хуткаму ўсасванню, не раздражняючы кішэчнік, зніжаючы кіслотнасць.

Наадварот, мёдавы водны раствор у халодным выглядзе павышае кіслотнасць, затрымлівае змесціва страўніка і раздражняе кішэчнік.

Пчаліны мёд з'яўляецца выдатным сродкам пры язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, а таксама пры хваробе печані. Ужыванне мёду пры некаторых захворваннях нервовай сістэмы дае добры вынік. Шклянка вады з мёдам перад сном забяспечае спакойны сон.

У народнай медыцыне шырока ўжываецца мёд для лячэння захворванняў вачэй. Назіранні паказваюць, што сутачнай дозай мёду для дарослага чалавека з'яўляецца 100, максімальна — 200 грамаў. Гэтую колькасць трэба падзяліць наступным чынам: раніцай — 30—60 гр., удзень — 40—80 гр., увечары — 30—60 гр. Прымаць мёд трэба за паўтары — дзве гадзіны да яды або праз тры гадзіны пасля яды.

Так ужываць мёд трэба на працягу двух месяцаў.

**Урач В. Ромаш**



 

# Трыбуна чытачоў

## З жыцця гурткоў БГКТ

Вёска Вілянова, гэта адна з беларускіх вёсак у Сямяціцкім павеце. Моладзь у гэтай вёсцы вельмі прыемная, яна кожнага прымае ветліва, шчыра і весела з імі гутарыць. Гурток БГКТ у Вілянове паўстаў у месяцы сакавіку 1962 г. Адразу да гуртка ўступіла 20 членаў. Старшынёй была выбрана Ліда Бондар. Да традыцыі гэтай вёскі належыць праца ў драмгуртку. І так кожны год у зімовыя доўгія вечары моладзь збіралася ў адной хаце і распісвала рэпертуар. Са сваім рэпертуарам яна выступала ў сваёй вёсцы і на тым канчалася кар'ера гэтага драмгуртка. На гэты раз самадзейнікі зрабілі інакш. Падрыхтавалі яны п'есу Янкі Купалы «Прымакі», з якой выступілі спачатку ў сваёй вёсцы, а потым у вёсцы Нурэц, дзе вельмі спадабалася гэтая п'еса гледачам. Трэба адзначыць, што моладзь Вілянова мела вялікія цяжкасці ў падрыхтоўцы гэтай п'есы, таму што яна не ведала беларускай літаратурнай мовы. Тут з дапамогай ім прыйшла настаўніца Вера Банькоўская. І ўжо цяпер, выконваючы свае ролі, яны гавораць добра на беларускай мове. У далейшым Віляноўскі гурток выступіў на фестыне, прысвечаным XVII гадавіне заканчэння вайны і XX гадавіне смерці беларускага пісьменніка Янкі Купалы. Як бачым, у гэтым годзе Віляноўскі драмгурток не закончыў сваіх выступленняў у сваёй вёсцы.

Жадаем вам, самадзейнікі з Вілянова, многа шчасця, і каб наступным разам было яшчэ лепш.

**Леў**
Сямяціцкі павет

* ✻ *

Не так даўно адбываўся агляд беларускіх гурткоў мастацкай самадзейнасці з вёсак Пянькоў і Баршчэва. Зала кіно ў Павятовым доме культуры ў Міхалове была перапоўнена публікай да апошняга месца, а нават у пачакальні было поўна людзей. Гэта сведчыць аб зацікаўленні беларускай песняй. А зараз некалькі слоў аб выступленні гуртка мастацкай самадзейнасці з Баршчэва. Самадзейнікі Баршчэва паказалі пастаноўку «Боты». Ці больш яны не маглі нічога паказаць? «Боты» ў іх выкананні бачылі мы не адзін раз. Гэта ўжо старое. А як жа ж хацелася б пабачыць, напрыклад, «Несцерку». Трэба дадаць, што пастаноўка «Боты» ўдалася. Далей былі спевы і танец «Лявоніха». Ва ўсіх выступленнях найлепш выканала сваю ролю Браніслава Абрамовіч.

**П. Захараў**
Міхалова

* ✻ *

Нядаўна ў Койлах моладзь арганізавала гурток БГКТ. І вось 30 красавіка Койлаўская моладзь першы раз выступіла на сцэне ў сваёй роднай вёсцы. У памяшканні мясцовай школы сабраліся амаль усе жыхары вёскі Койлы. Прыемна было паглядзець сваім бацькам, як іх дзеці прыгожа спяваюць. Гурток налічвае 21 асобу. Кіраўніком гуртка з'яўляецца настаўнік Янцэвіч Яўгень, а намеснікам Лідзія Садоўская. На праграму гуртка складаліся беларускія і рускія песні. Песню «Васемнаццаць лет» прыгожа заспявала Валя Паўлючук. Гурток паставіў п'есы «Пярэстая Красуля», «Суседка» і «Цяжкі выпадак».

**Анна Шыла**
Койлы

## Весткі са школы

Кіраўніком школы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) з'яўляецца Васіль Цялушэцкі. Тут працуюць дзве настаўніцы: Надзея Адамюк і Надзея Цялушэцкая і два настаўнікі: Міхаіл Івацік і Мікалай Барташук. Школа ў Старым Ляўкове змяшчаецца ў двух будынках. У школе ёсць бібліятэка, якая мае многа беларускіх і польскіх кніжак. Усе дзеці гэтай школы вывучаюць беларускую мову. Амаль усе вучні ад першага да сёмага класаў падпісваюць «Ніву». Як відаць, вялікую ўвагу звяртаюць настаўнікі на беларускую мову. У школе чыста, прыгожа, на сценах вісяць сценгазеты і лозунгі. Не толькі ў школе парадак, але і на панадворку, які выключна належыць да школы. Школа абгароджана плотам, навокал растуць дрэвы. Настаўнікі гэтай школы клапоцяцца аб дзецях, а асабліва кіраўнік школы, Васіль Цялушэцкі. Кіраўнік школы і наш солтыс вельмі дбаюць аб збор грошай на пабудову школ Тысячагоддзя.

**Віктар Харкевіч**
Старое Ляўкова

## Людзі труцяцца

Аж сорамна пісаць аб тым, што дзеецца ў вёсцы Кутлоўка (Гайнаўскі павет). Яна мае дрэнную славу дзякуючы таму, што тут шмат аматараў водкі. Мала таго, зараз тут не грэбуюць і «дэнатуратам». А як вядома, алкагалізм — гэта крыніца шмат якіх няшчасцяў. Усе яшчэ добра помняць няшчасны выпадак з грам. Галёнкай, які ў п'яным выглядзе ўляцеў у калодзеж у свайго Кутлоўскага сябра.

Забываюць жыхары вёскі аб вялікіх шкодах, якія нясе з сабою водка. Яна ж прычынай шматлікіх хвароб, ад яе людзі трацяць розум, знішчаюць сямейнае жыццё. Апомніцеся ўрэшце, жыхары Кутлоўкі!

**М. Ч.**
Гайнаўскі павет

## Ой, гэтыя дарогі

Як жа ж прыемна ехаць асфальтавай дарогай, або пакрытай косткай. Ёсць добрыя дарогі, дзе праедзеш чым хочаш і як хочаш — хутка ці памалу — гэта ўжо справа шафёра. Ёсць дарогі, па якіх не праедзеш ані возам, ані машынай, ані маторам. У такіх умовах можна смела ўліпнуць у балота, як у масла.

Вось такая дарога спалучае Міхалова з Нарвай. Даўжыня яе 18 км. Гэтая дарога вельмі неабходная людзям. І таму дарожны аддзел Прэзідыума ВРН павінен зацікавіцца гэтай справай і разам з насельніцтвам прыступіць да яе пабудовы.

**П. З.**
Беластоцкі павет

## Клічам кіно

Уявіце толькі, на працягу 17 год народнай улады ў нашую вёску — Стрыкі— толькі два разы заглянула кінаперасоўка і то зусім выпадкова. Добра было б, каб аб нас урэшце прыпомнілі, каб уявілі сабе, што існуе яшчэ ў Бельскім павеце такая вёска. З культурнымі мерапрыемствамі ў Стрыках зусім дрэнна выглядаюць справы і таму так прагна чакаем на кіно. У вёсцы маем новы школьны будынак, у якім можна высвятляць фільмы.

**Уладзімір Сычэўскі**
Стрыкі

Ад рэдакцыі: У справе кінаперасоўкі будзем інтэрвеніраваць.

## Пажарная каманда ў Ласінцы

Многа ёсць вёсак, дзе арганізуюцца розныя гурткі. Таксама і ў нашай вёсцы Ласінка ў 1956 годзе была сарганізавана пажарная каманда, да якой належыць 16 чалавек. Кіраўнікамі яе з'яўляюцца: Янка Плева, Сяргей Красноўскі і Анатоль Станька. За гэты час наша моладзь многа брала ўдзелу пры тушэнні агню. На пераломе 1962—63 года будзе закончана рэміза са святліцай. У 1960 годзе для нашай вёскі быў прызначаны пажарны самаход.

**Аляксей Данілюк**

## Дзеці прычынай пажару

Нядаўна ў поўдзень у Новым Востраве (Сакольскі павет) выбухнуў пажар у гумне Курзы Юліяна. Усё поўнасцю згарэла. Дзякуючы пажарнай камандзе з Крынак, якая хутка паспела прыехаць у Новае Вострава, пажар не перакінуўся на другія будынкі. Як пасля ўдакладнена, пажар выклікалі дзеці. Яны забаўляліся запалкамі, а як вядома, такая гульня звычайна канчаецца пажарам.

Усе бацькі павінны задбаць аб тое, каб дзеці ніколі не забаўляліся запалкамі. Колькі ж ужо, менавіта, па іх прычыне згарэла гаспадарчых і жыллёвых будынкаў, з дымам пайшло людской працы. Асабліва летам часта дзеці застаюцца без належнага догляду і таму ўсе на вёсцы павінны пакласці намаганні, каб у іх рукі не траплялі запалкі і наогул каб бацькі прысвячалі большую ўвагу выхаванню падрастаючага пакалення.

**Жэня Гламбоцкая**
Грыбоўшчына

## СПОРТ

Нядаўна пры Пачатковай школе ў Ласінцы аматары ручнога мяча наладзілі матч, на які прыбылі вучні з 6 школ, а менавіта з Кленік, Трасцянкі, Нарвы, Крыўца, Тынявіч Вялікіх і Ласінкі. Кожная школа іграла 40 мінут. У выніку матча пачатковая школа з Крыўца здабыла першае месца, а другое месца занялі Кленікі.

**Зіна Ялінік**
Навіны

## Як перахоўваць фрукты без цукру

Такія фрукты, як ягады, маліны, вішні можна пастэрызаваць ва ўласным соку без дадатку цукру.

**Чорныя ягады.** Старанна перабраць, прамыць і адцэдзіць, усыпаць у гаршчок і падагрэць, каб пусцілі сок і пазбавіліся паветра. Потым укладаем іх у слоікі і пастэрызуем 25 мінут у тэмпературы 90°С. Зімою прыгатаўляць з іх можна суп, дадаючы цукру да смаку.

**Брусніцы.** Брусніцы старанна перабраць, прамыць і адцэдзіць, усыпаць у каструлю, якую ўстаўляем у гарачую печку або падаграваем на пліце, аж брусніцы пусцяць сок. Брусніц нельга разварваць. Прыгатоўленай масай напаўняем слоікі і пастэрызуем 25 мінут у тэмпературы 90°С. Калі патрабуем, адкрываем слоікі і варым брусніцы з цукрам.

**Вішні.** Можна іх пастэрызаваць без цукру з костачкамі, аднак лепш без костачак. Прыгатаўляецца таксама як ягады, пастэрызуецца 25 мінут у тэмпературы 90°С.

**Парэчкі.** Даспелыя парэчкі абіраем з гронак, прамываем халоднай вадой на сіце або друшляку. Чыстыя сыплем у каструлю, падаграваем аж пусцяць сок, а потым накладаем у бутэлькі і пастэрызуем 25 мінут у тэмпературы 90°С.

**Сліўкі.** Да пастэрызавання найлепш надаюцца вялікія, чуць даспелыя сліўкі. Перабіраючы, адкінуць пашкоджаныя, папсутыя, рабачывыя, а астатнія перарэзаць на палавінкі і вынуць з іх костачкі. Палавінкі слівак укладаем у слоікі і моцна націскаем. Пасля напаўнення пастэрызуем 25 мінут у тэмпературы 90°С.




Праграма
ад 25.VI. — 1.VII.1962 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„100 kilometrów" (włoski), 26—28. „Zmartwychwstanie" (radz.), 29—1.07.

**Кляшчэлі**
„100 kilometrów" (włoski), 26—28. „Zmartwychwstanie" (radzieckii), 29—1.07.

**Навасады**
„Dziewiąty krąg" (jugosł.), 30—1.07.

**Нараў**
„Daleki ukochany" (radz.), 27—1.07.

**Нараўка**
„Zaduszki" (polski), 27—1.07.

**Чаромуха**
„Expo 58" (radz.), 26—28. „Pięć łusek" (NRD), 29—1.07.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Liga dżentelmenów" (angl.), 27—1.07.

**Бранск**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 26—28. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 29—1.07.

**Гродзіск**
„Droga na Zachód" (polski), 30—1.07.

**Орля**
„Zwykła historia" (radz.), 27—1.07.

**Райск**
„Światła na biegunie" (radz.), 27—1.07.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 26—28. „Tajemnica szyfru" (rumuńskii), 29—1.07.

**Супрасль**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 26—28. „Martwe dusze" (radz.), 29—1.07.

**Чорна Весь**
„W pięknej Indonezji" (radz.), 26—28. „Portier z lazurowego wybrzeża" (franc.), 29—1.07.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Profesorek" (franc.), 26—28. „Szybsza od wiatru" (radz.), 29—1.07.

**Мілейчыцы**
„Skok o świcie" (radz.), 26—28. „Koniec drogi" (bułgarski), 29—1.07.

**Нурэц**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 26—28. „Przed nami zakręt" (radziecki). 29—1.07.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 26—28. „SOS Titanic" (angl.), 29—1.07.

**Шудзялава**
„Przeciwko Bogom" (polski), 27—1.07.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Perła" (meksykański), 30—31.

**Новы Двор**
„Zwykła historia" (radz.), 30—1.07.

**Ружаны Сток**
„Człowiek ze słomy" (włoski), 30—1.07.

У днях 25.VI — 1.VII у мясцовасцях Янаў, Крынкі, Гарадок, Чыжы фільмы высвятляцца не будуць.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-88, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14 40 zł, rocznie — 28 80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykła wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5000 Błtk F-1

 




### АБ ЖОНЦЫ

— Як гэта, ты ж ажаніўся, маеш жонку і прышываеш сам да плашча гузікі?

— Гэта не мой плашч, гэта плашч жонкі.



Цяжкая любоў

Разумеецe, муж хоча мець сына...

### АПРАЎДАННЕ

— Ці вас у школе вучаць, што трэба ўступаць месца старэйшым?

— Так, але цяпер у нас канікулы.

**Янка Данільчук**

Ляўкова Старое

### РОСПАЧ

Гаспадару ў вёсцы намерла жонка. Плакаў ён па ёй тры дні. А калі праз нейкі час здохла яго кабыла, плакаў па ёй пятнаццаць дзён.

— Бойся Бога, — гаварылі суседзі: — Па жонцы плакаў ты тры дні, а па кабыле не можаш успакоіцца?

— Пасля смерці жонкі больш дзесяці суседзяў сказала мне, што дадуць сваe дочкі на жонку, а каня ячшэ ніхто мне не запрапанаваў.



Знаходлівы




На сваім панадворку і курыца пані — неаднойчы чуем у народнай пагаворцы. Таксама Аляксандр Уголік з вёскі Крапіўна, якая раскінулася на Дуброўшчыне, ходзіць па сваім панадворку быццам генерал. Слова скажа — сякерай адсячэ. А чарку кульнуць... дык што там казаць. Ці ж яму не справіцца з чаркай. Будзь яна чарка і цэлы цабэрак і то адным махам, будзьце здаровы — і няма яе. Налівай наступную.

Нельга сказаць, што ён толькі чаркай захапляўся. Захапляўся ён і іншымі справамі. Падыдзе бывала да сваіх кароў ды пачне:

— Эх, вы жывёлы, жывёлы. Каб вы ўмелі гаварыць. Сказаў бы я вам цікавую справу. Сказаў бы, што для вас новы хлеў пабудую! Пашыру жывёлагадоўлю. Будзе вас тут больш, ды весялей станецца ў вашай хатцы.

— Чаго красуля твае вочы сумныя? Не верыш? Думаеш што грошай не расстараюся? Дурненькая ты, зусім дурненькая. Мне ўжо з банку прыслалі паведамленне, што атрымаю 20 тысяч пазыкі на гэтую будову.

І вось Аляксандр Уголік адправіўся па пазыку. Поўную кішэню атрымаў грошай. Ды як з такой нагоды не напіцца? Ніяк не мог абмінуць гасподы. Тут хутка знайшліся сябры і сяброў сябры і пачалося гулянне. Пілі да поўначы. Назаўтра пахмяляліся. Напаслезаўтра зноў пахмяляліся. І так вельмі часта Аляксандр Уголік хадзіў касы як зайка.

Праз нейкі час наш герой зар'ентаваўся, што шмат убыло грошай і што многа часу дарма праляцела. І тады зноў пачаў думаць аб жывёлагадоўлі, аб яе пашырэнні, аб пабудове новых хлявоў. Але ўжо было позна. Грошай ледзь хапіла на пабудову фундамента. І к опка. Прышоў час звяртаць пазыку. І так Аляксандр Уголік не пабудаваў хлявоў і жывёлагадоўлі не пашырыў. Наадварот. Пачаў яе звужваць. Змушаны быў прадаць адну карову на звяртанне належнай пазыкі. І так ён у гарэлцы ўтапіў будову хлява і кароўку.

**М. Сваяк**

## КУР'ЁЗЫ

Аднойчы англійскі ляснічы выратаваў топячыхся жанчыну і сабаку. За свой высокародны пастулак атрымаў ён дзве ўзнагароды. 10 фунтаў стэрлінгаў за выратаванне сабакі прыслала таварыства апекі жывёлы. Другую ўзнагароду ў суме 1 фунта прыслала таварыства выратоўвання топячыхся.

✲

Суд у Трэнта (Італія) абвінаваціў 40-гадовага Сальватора дэ Віта за здзекі над жонкай. Быў ён такі зайздросны, што адыходзячы спаць прывязваў раменным пастронкам да сваёй нагі нагу жонкі... Зайздросніка пакараў суд дзесяціднёвым зняволеннем.

✲

Лявіня Баірд (91 год) многаразовая прабабка выбралася ў падарожжа з Англіі да Каліфорніі, каб наведаць сына. Пасля некалькіх месяцаў вярнулася яна ў таварыстве нарачонага. З'яўляецца ім былы яе муж, з якім разышлася 40 год таму назад.

✲

Аднойчы англічанін Георг Люшэр вярнуўся дамоў на абед з 40 мінутным спазненнем. Жонка з гэтага зрабіла яму страшную авантуру. Георг разгневаўся і заявіў жонцы, што ўжо ніколі не адазвецца да яе. Малагаворкі, як праўдзівы англічанін пан Люшэр датрымаў слова. 7 год ён не адазваўся да жонкі. Перакананая жонка ў тым, што муж ніколі не адазвецца, выступіла да суда ў справе разводу.

## РАДЫЁ-ВУЗЕЛ

Спяшаюся падзяліцца навасцю з вамі, дарагія чытачы, з выпадку новага культпункта ў нашай вёсцы.

У іншых вёсках, аб культуры нават вароны не каркалі, а ў нас, уявіце сабе, радыёвузел дзейнічае.

Самае галоўнае ў тым, што наш радыёвузел арганізаваны без якіх-небудзь расходаў і без фінансавай дапамогі шэфа нашай вёскі.

Як вядома, нашым бюджэтам дакучае хранічная астма і непрадбачаных расходаў не церпяць як каты гарчыцы, а наш радыёвузел нарадзіўся, аднак, хоць гэта і не было прадбачана ў пяцігадовым плане.

Нягледзячы на пазапланавае ўзнікненне, радыёвузел добра дзейнічае без дапамогі грамадскай рады нарадовай.

Загадвае нашым радыёвузлам цётка Агата. Што толькі не станецца ў вёсцы, кожная навасць зараз аблятае ўсіх жыхароў.

Інфармацыйны пункт радыёвузла знаходзіцца каля вясковага калодзежа. Як вядома, калодзежы на вёсках забяспечваюць жыхароў не толькі студзёнай вадой, але і рознымі навасцямі, часта высасанымі з пальца. Пакуль жураўель калодзежа, паскрыпваючы, кланяецца вёсцы, цётка Агата нястомна перадае бабам радыёнавасці.

У Кандраціхі нованароджанае цяля негрыцянскай пароды, само чорнае, а на ілбе звёздачка. Здавалася б простая справа, аднак у вёсцы няма чорнага бугая, а карова ў Кандраціхі чырвонай пароды.

Лявоніха другі дзень лаецца з нявесткай за перасолены суп. Не эканоміць солі марнатраўніца нявестка, так і думай што ўсю гаспадарку ў трубу загоніць.

Кавалёва дачка зноў у млыне цалавалася з Санькай прадаўцом. Гэта Санька падарыў ёй шалік, які напэўна ўкраў у магазіне.

Панас ноччу на чацвярэньках дабраўся дадому, а як баба раніцай пачала яго за гэта прабіраць, Панас панабіваў жонцы фанары. Твар цяпер у Панасіхі разнаколерны як радуга..

У Еўфрасініі сёння на абед капуста са свінінай. У старой хустцы ходзіць Еўфрасінія, а мясам абжыраецца.

Дзякуючы цётцы Агаце, так штодзённа працуе радыёвузел. Як чалавек не павернецца, абавязкова на цёткін язык пападзе і ніякага няма выхаду. Калодзеж не засыплеш — вада неабходная. Агаты не праб'еш, тры іншыя цёткі заступяць яе месца, а сам не павесішся, таму што гэта дасць толькі новую тэматыку радыёперадачам.

А найгорш за ўсё тое, што ў кожнай вёсцы ёсць свая радыёцётка.

*Дзядзька Лявонь*

Песні па заяўках

Па просьбе Веры Кучко з Гайнаўкі, Кастуся Шуецкага з Арэшкава, Гайнаўскі павет і «Беларускі» з Беластока, змяшчаем сучасную беларускую песню.

### Колькі ў небе звёзд

Словы і музыка Шыдлоўскага



Колькі ў небе звёзд — цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць:
Гэта ты мая, зорка ясная,
Ты любоў мая непагасная.

Ў працы і ў жыцці добра нам з табой,
Марыць і любіць з песняй маладой.
Сонца і вясна з намі круглы год,
Шчасця больш у нас, як на небе звёзд.

Край шырокі ў нас, мірны, дарагі,
І бягуць удаль светлыя шляхі,
Мне з табой па іх хочацца ісці
І усё дзяліць разам у жыцці.




— Добра было б, каб чалавек ведаў, дзе памрэ.
— Што гэта табе дало б?
— О, я б туды ніколі не пайшла б!

### ЛУНАЦІК





Праект кабінета для аматараў падхалімажа

 